

Пралятары ўсіх краін, злучайцеся!

# БЮЛЯТЭНЬ САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БЕЛАРУСКАЙ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ САВЕЦКАЙ РЭСПУБЛІКІ

Выдаецца Інфармацыйна-Выдавецкім Аддзелам Кіраўніцтва Спраў СНК і Эканамічнай Нарады (г. Менск, Чырвонаармейская вул. № 3). — Падпісная плата на год 5 р. і на 1/2 г. 2 р. 50 к.

VI-ы ГОД ВЫДАНЬНЯ

| № 7 (81) | 20 красавіка 1930 г. | № 7 (81) |
|---|---|---|

## ЗЬМЕСТ

## Пастановы Народнага Камісарыяту Працы БССР.

### Паст. 84. Пра нормы спэцвопраткі для мэдычных работнікаў.

Народны Камісарыят Працы БССР у дадатак да норм спэцвопраткі, устаноўленых НКП СССР, пастанаўляе ўстанавіць для мэдычных работнікаў наступныя нормы спэцвопраткі:

| | |
|---|---|
| 1. Прапаратары . . . . | 1. 2 халаты на 1 год;<br>2. Касынка да зношаньня. |
| 2. Рабочы пітомніку . . | 1. 2 халаты на 1 год;<br>2. Рукавіцы брэзэнтавыя да зношаньня;<br>3. Боты скураныя 1 пара на 1 год. |
| 3. Абсьледвацелі на даму | 1. Брэзэнтавая накідка на 2 гады;<br>2. Камашы 1 пара на 1 год. |
| 4. Насільшчыкі . . . . | 1. 2 халаты на 1 год. |
| 5. Разношчыкі. . . . . | 1. 2 халаты на 1 год. |
| 6. Сёстры . . . . . . | 1. 3 халаты на 1 год.<br>2. Касынка да зношаньня;<br>3. Мяккія туфлі на час дзяжурстваў. |
| 7. Дэзынфэктар . . . . | 1. Боты скураныя 1 пара на 1 год;<br>2. Гумавыя рукавіцы да зношаньня;<br>3. 2 халаты на 1 год. |

Народны Камісар Працы БССР *М. Гнілякевіч.*

Ст. Праўны Інспэктар НКП БССР *Х. Гольдзінберг.*

23 сакавіка 1930 г.
№ 22.

### Паст. 85. Пра выплату выхадное дапамогі асобам, якія камандыраваны ў Цэнтральную Школу прафруху БССР.

Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе:

Асобы, якія камандыраваны ў Цэнтральную школу прафэсіянальнага руху БССР, атрымліваюць ад прадпрыемства альбо ўстановы, дзе яны працавалі, выхадную дапамогу ў разьмеры месячнага заработку.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР *П. Саламонаў.*

25 сакавіка 1930 г.

## Пастанова Народнага Камісарыяту Працы і Народнага Камісарыяту Асьветы БССР.

### Паст. 86. Пра вызваленьне ад працы тых пэдагогаў, якія працуюць не па сваёй спэцыяльнасьці.

Прымаючы пад увагу патрэбу поўнага забясьпечаньня выкананьня пляну ўсеагульнага абавязковага навучаньня і маючыйся недахоп значнай колькасьці пэдагогаў у першым і другім канцэнтрах сямігодак,—

народныя камісарыяты Працы і Асьветы БССР, на падставае пастановы СНК БССР за 14 сакавіка 1930 г. (пратакол № 14), пастанаўляюць:

I. Усе асобы, якія маюць сярэднюю альбо вышэйшую пэдагагічную адукацыю і працуюць у сучасны момант у дзяржаўных, каперацыйных і грамадзкіх установах не па сваёй спэцыяльнасьці, павінны ў месячны тэрмін зарэгістравацца ў адпаведным акруговым інспэктарыяце народнай асьветы.

Ад рэгістрацыі вызваляюцца члены ЦВК БССР, асобы, страціўшыя звыш 50% працаздольнасьці (па адпаведных даведках лекава-кантрольных камісій) і ўсе асобы, якія займаюць выбарныя пасады.

II. Арганізаваць пры акруговых інспэктарыятах народнае асьветы камісіі ў складзе прадстаўнікоў акр. інспэктарыяту народнае асьветы (старшыня), акр. інспэкцыі працы і Прафсаюзу працаўнікоў асьветы для перасоўкі паказаных у арт. I работнікаў на пэдагагічную працу ў навучальныя ўстановы.

Камісіі скончыць работу не пазьней 1 чэрвеня 1930 г.

III. Не падлягаюць пераводу на пасады настаўнікаў тыя асобы, якія раней былі зволены з пасады настаўнікаў па сваёй неадпаведнасьці ці не адпавядаюць гэтаму, паводле заключэньня камісіі.

IV. З ліку асоб, зарэгістраваных і прызнаных камісіяй годнымі ў якасьці настаўнікаў, 50% скарыстоўваюцца пепасрэдна акруговым інспэктарыятам нар. асьветы, а астатнія браніруюцца за НК Асьветы і разьмяркоўваюцца апошнім па заяўках акруг не пазьней 1 жніўня г/г.

V. У тых выпадках, калі перасоўка работніка зьвязана з пераменай месца пражываньня, яму выплачваюцца пад‘ёмныя і іншыя кампэнсацыі, паводле пастановы ЦВК і СНК СССР за 9 лістапада 1927 г. („Изв. НКТ“ 1927 г., № 52).

VI. Асобы, якія ўхіляюцца ад рэгістрацыі (арт. I гэтай пастановы), прыцягваюцца да адказнасьці паводле арт. 102 Крымінальнага Кодэксу БССР; тыя-ж асобы, якія адмаўляюцца ад працы па спэцыяльнасьці,— зьнімаюцца з працы і на працягу 3-х месяцаў не рэгіструюцца на біржах працы; на гэты-ж тэрмін яны пазбаўляюцца права на атрыманьне дапамогі па беспрацоўю ў парадку сацыяльнага страхаваньня.

Народны Камісар Працы БССР *М. Гнілякевіч.*

Народны Камісар Асьветы БССР *А. Платун.*

23 сакавіка 1930 г.
№ 23.

## Пастанова Народнага Камісарыяту Земляробства БССР.

### Паст. 87. Пра арганізацыю паляўніцкіх заказьнікаў у Менскай акрузе.

Народны Камісарыят Земляробства БССР пастанаўляе арганізаваць на тэрмін 5 год, пачынаючы з 15 сакавіка 1930 г. і да 15 сакавіка 1935 году па Менскай акрузе наступныя паляўніцкія заказьнікі:

1) У Паціцоўскай дачы Смалявіцкага лясьніцтва кв. кв. № 1—34, 36—45, 51—60, 67—76, 82—89, 91—96, 99—100 з уключэньнем у заказнік усіх зямель с.г. карыстаньня, якія знаходзяцца ў межах памянёных кварталаў, усяго на плошчы каля 7.100 га. Пасьбу

скаціны дазволіць на адпаведных вучастках кв. кв. № 1—8, 36—37, 51—52, 67—69, 82—83, 91—100;

2) У Слабоцкай дачы Глівенскага лясьніцтва на плошчы 3.533 га ў межах: з усходу—чыгуначная лінія Жодзіна-Тупік, дарога ад тупіка да хут. Сьвятое; з поўдня—дарога хут. Сьвятое-Кленьнікі (да мяжы Смалявіцкага лясьніцтва з уключэньнем пад заказьнік 23 і 24 кв. кв. Забашавіцкай лясной дачы) Смалявіцкае л-ва; з захаду—Смалявіцкае л-ва; з поўначы—землі мэліарацыйнага фонду, з уключэньнем пад заказьнік возера Судобаль.

Нам. Народнага Камісара Земляробства БССР *К. Масюкоў.*

Член Калегіі НКЗ БССР *Я. Пятрушын.*

25 сакавіка 1930 г.

## Абежнік Падатковага Кіраўніцтва Народнага Камісарыяту Фінансаў БССР.

**Паст. 88. Пра ўвядзеньне ў дзейнасьць інструкцыі, зацьверджанай НКФ БССР 4 сакавіка 1930 г., „Пра спагнаньне мэтавага кватэрнага падатку на патрэбы будаўніцтва рабочых жылішч у БССР“ (арт. арт. 18, 62, 62[1], 62[2], 65, 136 і 137 Палажэньня пра мясцовыя фінансы БССР).**

*Усім АкрФА, Віцебскаму АВК, Віцебскаму Гарсавету і РВК Віцебскай акругі—Гарадоксскаму, Бешанковіцкаму, Ліозьнянскаму, Сеньненскаму, Сураскаму і Чашніцкаму.*

Пры гэтым дасылаецца для кіраваньня інструкцыя, зацьверджаная НКФ БССР 4/III-1930 г., пра спагнаньне мэтавага кватэрнага падатку ў БССР.

З выданьнем гэтае інструкцыі трацяць сілу інструкцыя НКФ БССР за 1927 г. пра ўжываньне пастановы ЦВК і СНК БССР за 4/VI-1927 г. пра мэтава-кватэрны падатак і ўсе выдадзеныя НКФ БССР да 1 кастрычніка 1929 г. абежнікі і тлумачэньні па гэтым пытаньні.

Начальнік Падатковага Кіраўніцта НКФ БССР *Айзінсон.*

18 сакавіка 1930 г.
№ 3311.

Дадатак.

Зацьвярджаю:
Нам. Нар. Камісара Фінансаў БССР
*Л. Бунін.*
4 сакавіка 1930 г.

**Інструкцыя пра спагнаньне мэтавага кватэрнага падатку на патрэбы будаўніцтва рабочых жылішч у БССР (арт. арт. 18, 62, 62[1], 62[2], 65 136 і 137 Палажэньня пра мясцовыя фінансы БССР.**

(Арт. 18 палажэньня). Мясцовым саветам, паводле пастаноў акруговых З'ездаў Саветаў альбо пленумаў акруговых выканаўчых камітэтаў, даецца права ўстанаўляць і спаганяць на ўзмацненьне мясцовых сродкаў наступныя падаткі і зборы:

м) мэтавы кватэрны падатак на патрэбы будаўніцтва рабочых жылішч.

(Арт. 62 Палажэньня) Мэтавым кватэрным падатакам (п. „м“ арт. 18) абкладаюцца ўсе фізычныя асобы ў залежнасьці ад разьмеру занятай імі ў гарадзкіх паселішчах жылой плошчы, калі гэтыя асобы плацяць падаходны падатак паводле раскладу № 3 ставак падаходнага падатку (пункт „в“ арт. 7 Палажэньня пра дзяржаўны падаходны падатак за 14/XII-1927 г.—З. З СССР 1928 г. № 1, арт. 2).

§ 1. Мэтавым кватэрным падаткам на патрэбы будаўніцтва рабочых жылішч абкладаюцца ўсе фізычныя асобы, якія маюць непрацоўныя даходы, (за выняткамі, паказанымі ў арт. арт. 62[1] і 62[2] Палажэньня) на працягу ўсяго часу знаходжаньня іх у ліку платнікаў дзяржаўнага падаходнага падатку, паводле раскладу № 3 ставак падаходнага падатку, незалежна ад таго ці гэтыя асобы абкладаюцца падаходным падаткам толькі паводле раскладу № 3 ці адначасова з гэтым і па іншых раскладах.

§ 2. Кватэрны падатак спаганяецца пачынаючы з таго акладнога году, з якога памяненыя ў арт. 62 Палажэньня асобы прыцягнуты ўпяршыню да абкладаньня падаходным падаткам паводле раскладу № 3 ставак падаходнага падатку.

(Арт. 62[1] Палажэньня) Члены агульна-грамадзкіх жылішчна-будаўнічых каперацыйных таварыстваў, а таксама забудоўшчыкі—паасобныя грамадзяне ня плацяць кватэрнага падатку за жылую плошчу, што займаецца імі самімі і членамі іх сем‘яў, якія знаходзяцца на іх утрыманьні, у пабудаваных гэтымі таварыствамі і грамадзянамі будынках зусім на працягу трох гадоў ад дня пабудаваньня будынкаў.

На працягу рэшты часу дзеяньня дагавору аб праве забудоўкі альбо на працягу наступных 30 гадоў, калі будынкі пабудаваны на пляцох выдзеленых паказаным таварыствам у бестэрміновае карыстаньне, паказаныя асобы ня плацяць паловы кватэрнага падатку.

Льгота па кватэрнаму падатку даецца пры ўмове, калі жылая плошча пабудаваных будынкаў складае ня менш 75% агульнай плошчы гэтых будынкаў.

Устаноўленая гэтым артыкулам льгота пашыраецца і на дабудаваньне, прыбудаваньне, надбудаваньне, перабудаваньне і адбудаваньне будынкаў з мэтаю іх скарыстаньня для жыльля, паводле атр. 86 Грамадзянскага Кодэксу БССР і арт. арт. 1 і 3 пастановы ЦВК і СНК БССР „Пра заахвачваньне да жылішчнага будаўніцтва (З. З БССР 1928 г. № 16, арт. 139).

Пры вызначэньні разьмеру жылой плошчы для дачы ўстаноўленай гэтым артыкулам льготы, у гэтую плошчу ўключаюцца кухні, перадпакоі, калідоры, ванныя, прыбіральні і да таго падобныя памяшканьні агульнага карыстаньня.

(Арт. 62[2] Палажэньня). Паасобныя грамадзяне, якія будуюць будынкі, прадугледжаныя пастановаю СНК БССР за 24 сьнежня 1928 г. „Пра захады да заахвачваньня будаўніцтва вялікіх дамоў за кошт прыватнага капіталу (З. З. БССР 1928 г., № 36, арт. 347), ня плацяць кватэрнага падатку за жылую плошчу, якая займаецца імі і членамі іх сем‘яў, што знаходзяцца на іх утрыманьні.

§ 3. Паказаныя ў арт. 62[2] Палажэньня фізычныя асобы вызваляюцца ад кватэрнага падатку за жылую плошчу, што займаецца імі і членамі іх сем‘яў, якія знаходзяцца на іх утрыманьні, у працягу ўсяго часу чыннасьці дагавору аб забудоўцы, прычым назалежна ад таго ці жывуць гэтыя асобы ў пабудаваных імі дамох ці ў якіх-небудзь іншых.

(Арт. 63. Палажэньня). Разьмер мэтавага кватэрнага падатку не павінен перавышаць гранічных ставак, паказаных у даданым раскладзе (Дадатак 2).

§ 4. Асобы, якія прыцягваюцца да абкладаньня кватэрным падаткам, і абкладаюцца падаходным падаткам адначасова па некалькіх раскладах, стаўка кватэрнага падатку вызначаецца па супольнасьці ўсіх даходаў платніка.

§ 5. Цьвёрдыя стаўкі кватэрнага падатку на падставе гранічных ставак, вызначаных Палажэньнем, устанаўляюцца паводле арт. арт. 136 і 137 Палажэньня: а) у акруговых гарадох адпаведнымі гарадзкімі саветамі, у межах вызначаных пленумамі акруговых выканаўчых камітэтаў, а ў іншых гарадзкіх паселішчах—пленумамі акруговых выканаўчых камітэтаў.

§ 6. Пастанова мясцовых саветаў пра ўвядзеньне кватэрнага падатку і пра стаўкі яго апублікоўваецца да ўсеагульнага ведама ў афіцыйных органах друку, ці якім-небудзь іншым парадкам.

§ 7. Кватэрны падатак бярэцца за ўсю жылую плошчу, якая займаецца ў гарадзкіх паселішчах паказанымі ў артыкуле 62 Палажэньня фізычнымі асобамі, сем'ямі гэтакіх асоб, якія знаходзяцца на іх утрыманьні, а таксама іх хатнімі работніцамі.

§ 8. Вылічэньне акладаў кватэрнага падатку робіцца адначасова з вылічэньнем падаходнага падатку, па разьмеру жылой плошчы, якую платнік займае з пражываючымі разам з ім членамі яго сям'і, на 1 кастрычніка акладнага году.

§ 9. Разьмер жылой плошчы, што абкладаецца, вызначаецца ў адпаведнасьці з разрахункамі плошчы, за якую бярэцца кватэрная плата. Частка жылых памяшканьняў, якія заняты гандлёвымі і прамысловымі (рымарскімі, саматужнымі) прадпрыемствамі ў разрахунак пры вылічэньні падатку ня ўключаецца.

§ 10. Калі некалькі членаў сям'і, якія пражываюць сумесна ў аднэй кватэры, маюць самастойныя непрацоўныя даходы і падаходным падаткам па росьпісу № 3 кожны з іх абкладаецца асобна, дык мэтавы кватэрны падатак вылічваецца па найвышэйшаму даходу аднаго з членаў сям'і за ўсю жылую плошчу, якая займаецца гэтай сям'ёй, і ў такіх выпадках платнікам кватэрнага падатку лічыцца гэтая асоба.

§ 11. Калі асобы, якія знаходзяцца ў шлюбе або ў радстве па простай лініі, маюць даходы ад гандлёвага або прамысловага прадпрыемства, якое належыць гэтым асобам і дзярж. падаходным падаткам па ўсёй суме гэтых даходаў абкладаецца адна з гэтых асоб, дык і кватэрны падатак вылічваецца такім-жа парадкам, як і падаходны падатак, г. зн., з аднэй асобы, выходзячы з агульнай сумы даходаў ад такіх прадпрымстваў, прычым, з усяе жылой плошчы, займаемай гэтымі асобамі, незалежна ад таго, ці жывуць яны сумесна ці асобна.

§ 12. Фізычныя асобы, якія пазбавіліся непрацоўных крыніц даходаў у працягу акладнога году і абкладаюцца падаходным падаткам ня ў звычайныя тэрміны (зараз-жа пасьля зачыненьня прадпрыемства) у наступным за тым годзе могуць прыцягвацца да абкладаньня кватэрным падаткам на агульных падставах.

§ 13. Калі фінорганам або падатковай камісіяй памяншаецца або павялічваецца вылічаны першапачаткова разьмер даходаў платніка, што абкладаецца падаходным падаткам, дык і аклады кватэр-

нага падатку павінны быць вылічаны нанова, выходзячы з ставак падатку, якія адпавядаюць сапраўднаму разьмеру даходу.

У такіх выпадках спагнаная зьверх за мінулыя часы сума кватэрнага падатку залічваецца ў наступныя плацяжы, а недаатрыманая (дадаткова налічаная сума) за мінулыя часы спаганяецца зараз, пасьля новага вылічэньня.

§ 14. Калі платнік зьмяніў занятае ім жылое памяшканьне на меншае, або зусім пераехаў ў сельскую мясцовасьць, дык па заяве платніка, за наступны за гэтым месяц падатак зьмяняецца адпаведна разьмеру ўноў занятага ім жылога памяшканьня, або ён зусім вызваляецца ад плацяжу падатку.

§ 15. Пры новым вылічэньні акладу кватэрнага падатку інспэктар па простых падатках павінен паведаміць аб гэтым платніка і адпаведную касавую ўстанову.

§ 16. Калі платнік кватэрнага падатку пераехаў на пражываньне ў другое гарадзкое паселішча, дзе таксама праводзіцца гэты падатак, дык адпаведны фінорган (інспэктар па простых падатках або акрфа), якім платнік прыцягваўся да абкладаньня да перамены месца пражываньня, павінен зараз-жа паведаміць адпаведныя фінорганы ў месцы новага пражываньня платніка для прыцягненьня да абкладаньня яго там, з паказаньнем сумы непрацоўных даходаў платніка, абкладзеных падаходным падаткам па росьпісу № 3 і тэрміну, за які спагнаны з яго кватэрны падатак.

§ 17. Калі інспэктар па простых падатках выявіў пераезд на пражываньне ў падведамсьцьвенны яму раён платніка падаходнага падатку па росьпісу ставак № 3 дык ён, не чакаючы атрыманьня вестак, паказаных у папярэднім артыкуле, павінен запатрабаваць іх непасрэдна ад платніка, або ад адпаведнага фіноргану для прыцягненьня платніка да кватэрнага падатку па новаму месцу пражываньня.

§ 18. Рэгістрацыя і падлік платнікаў і налічэньне акладаў кватэрнага падатку, а таксама наогул уся праца, зьвязаная з правядзеньнем гэтага падатку, ускладаецца на інспэктараў па простых падатках.

§ 19. Для рэгістрацыі і падліку платнікаў і разьмеркаваньня іх на разрады, а таксама для вызначэньня разьмеру займаемай імі жылой плошчы служаць тыя даныя, якія маюцца па абкладаньні падаходным падаткам.

> Увага. Асобныя справы на платнікаў кватэрнага падатку не заводзяцца, а ўсе матарыялы і разьлікі, якія тычацца абкладаньня гэтым падаткам, знаходзяцца ў справах па абкладаньні іх падаходным падаткам.

§ 20. Пасьля налічэньня акладаў кватэрнага падатку інспэктар па простых падатках паведамляе платнікаў аб тэрмінах уплаты і налічаным акладзе падатку асобнымі паведамленьнямі не пазьней як за месяц да першага тэрміну ўплаты.

Пасьля рассылкі паведамленьняў інспэктар па простых падатках аб гэтым даводзіць да агульнага ведама тым-жа парадкам, як гэта робіцца па падаходнаму падатку.

§ 21. Уплата кватэрнага падатку робіцца пакв артальна (у 4 тэрміны).

§ 22. Прыём кватэрнага падатку касавымі і банкавымі ўстановамі робіцца па падставе інструкцыі па акладному рахункаводзтву.

§ 23. Аклады кватэрнага падатку, якія ня былі ўнесены платнікам у вызначаныя тэрміны, залічваюцца ў нядоімку і спаганяюцца парадкам, вызначаным „Палажэньнем аб спагнаньні падаткаў і збораў за 2/X 1925 г.“, з налічэньнем пені ва ўстаноўленым разьмеры.

§ 24. Адтэрмінаваньне, растэрмінаваньне і складаньне акладаў кватэрнага падатку, а таксама зварот няправільна паступіўшых сум робіцца на агульных падставах, вызначаных для мясцовых падаткаў і збораў.

§ 25. Падача і разгляд скаргаў на няправільнае прыцягненьне або вылічэньне мэтавага кватэрнага падатку робіцца ў парадку, прадугледжаным арт. арт. 76—81 Палажэньня пра мясцовыя фінансы БССР за 23/IX-1928 г. (З. З. БССР 1928 г., № 33, арт. 313).

§ 26. Выдаткі на правядзеньне мэтавага кватэрнага падатку робяцца за рахунак паступленьняў азначанага падатку па асобных каштарысах, якія зацьвярджаюцца адпаведнымі мясцовымі саветамі.

Падатковае Кіраўніцтва НКФ БССР: *Валіцкі.* *Раманоўскі.*

## Абежнік Народнага Камісарыяту Унутраных Спраў БССР.

**Паст. 89. Пра тлумачэньне арт. арт. 9 і 22 Пастановы ЦВК і СНК БССР за 23 лютага 1929 г. „Пра аплату жылых памяшканьняў у гарадох БССР“ (З. З. БССР 1929 г., № 11, паст. 58).**

*Усім акруговым выканаўчым камітэтам і гарсаветам БССР.*

У № 14 Бюл. СНК БССР за 1929 г. апублікавана пастанова НКУС за 21 лістапада 1929 г. пра дапаўненьне інструкцыі сваёй пра ўжываньне закону аб кватэрнай плаце, паводле якой да арт. 4 памянёнай інструкцыі дададзены 3-ці абзац у тым сэнсе, што для рабочых і служачых, якія атрымоўваюць заработную плату да 100 р. на месяц, кватэрная плата не павінна перавышаць 10% іх заработнай платы. У зьвязку з гэтай пастановай перад некаторымі гарсаветамі паўсталі пытаньні:

1) Як налічаць кватэрную плату з асоб, заработак якіх не перавышае 100 рубл. на месяц, за жылую плошчу, што займаецца імі звыш устаноўленай нормы?

2) Як павінна вылічацца кватэрная плата з памянёных вышэй асоб, калі яны жывуць ва ўноў пабудаваных дамох, у якіх паводле арт. 22 пастановы ЦВК і СНК БССР за 23/II-1929 г., дазваляецца ўстанаўляць да звычайнай кватэрнай платы набаўку ў 25%?

Для вырашэньня паказаных пытаньняў Народны Камісарыят Унутраных Спраў, на падставе пастановы Савету Народных Камісараў БССР за 17 сакавіка 1930 г. (прат. № 41) тлумачыць:

1) За лішкі жылой плошчы, занятыя групамі рабочых і служачых, якія зарабляюць да 100 рубл. у месяц, кватэрная плата бярэцца ў падвойным разьмеры з разьліку кватэрнай стаўкі, устаноўленай для данай асобы альбо сям'і, хаця-б агульная кватэрная плата і перавышала 10% заработку асобы альбо сям'і, калі памянёныя лішкі дамакіраўніцтвам ня выдзелены ў парадку пацясьненьня (З. З. БССР 1927 г., № 96, арт. 190) і са згоды кватэранаймальніка пакінуты ў яго карыстаньні;

2) З груп рабочых і служачых з месячным заработкам да 100 р., якія жывуць у дамох, пабудаваных мясцовымі саветамі і прадпрыемствамі прамысловасьці і транспарту, дазваляецца, на паставе арт. 22 пастановы ЦВК і СНК БССР за 23 лютага 1929 г. „Пра аплату жылых памяшканьняў у гарадох БССР“ (З. З. БССР 1929 г., № 11, паст. 58) устанаўляюць набаўку да кватэрнай платы данай асобы альбо сям'і да 25%, хаця-б агульная кватэрная плата і перавышала 10% заработку асобы альбо сям'і.

Нам. Народнага Камісара Ўнутраных Спраў БССР *Я. Кроль.*

31 сакавіка 1930 г.
№ 7—178.

## Пастанова Народнага Камісарыяту Гандлю БССР.

### Паст. 90. Пра ўстанаўленьне надбаўкі на зацьверджаныя НКГ БССР прэйскурантныя гуртовыя цэны на тэкстыльныя вырабы Белсамрамсаюзу.

У зьвязку з пастановай ЦВК і СНК СССР за 25/IX-1929 г. аб скасаваньні акцызу з тэкстыльных вырабаў і замене яго дзяржаўным прамысловым падаткам („Изв. ЦИК СССР и ВЦИК“ 1929 г. № 226) і на падставе абежніку НК Гандлю СССР за 3/II-1930 г. № 8667—4193 НК Гандлю БССР пастанаўляе:

1. Устанавіць для прамкапярацыі часова, да вырашэньня гэтага пытаньня ў СНК СССР і да атрыманьня ад НК Гандлю СССР дадатковых дырэктыў, спэцыяльную надбаўку ў 7,53% да гуртовых адпускных прэйскурантных цэн на тэкстыльныя вырабы ўласнай выпрацоўкі.

2. Надбаўкі гэтыя распаўсюджваюцца на ўсе водпускі тавараў, пачынаючы з 1/Х-1929 г., з абавязкам для прадаўцоў і пакупнікоў зрабіць адпаведныя перарахункі.

3. Дробныя цэны гандлюючых арганізацый застаюцца бяз зьмены.

Нам. Народнага Камісара Гандлю БССР *М. Абрамсон.*

Сакратар НКГ БССР *Прэабражэнскі.*

22 сакавіка 1930 г.

Адказны Рэдактар **С. Лодысеў.**

Менск. Друк. Бел. Акад. Навук. Заказ № 2953. Тыраж 5000 экз. Галоўлітбел № 1572



Цана 15 кап.

# ДА ЎСІХ ПАДПІШЧЫКАЎ

## на ЗБОР ЗАКОНАЎ БССР і БЮЛЕТЭНЬ СНК БССР

Кіраўніцтва Спраў СНК і Эканамічнай Нарады БССР паведамляе, што з 1930 г. Збор Законаў БССР і Бюлетэнь СНК БССР будуць рассылацца падпішчыкам **не па індывідуальных адрасох з наклейкаю іх, а па картачнай сыстэме, без наклейкі індывідуальных адрасоў.**

У выпадку неатрыманьня якога-небудзь нумару Збору Законаў БССР і Бюлетэню СНК БССР належыць зьвяртацца да мясцовай паштова-тэлеграфнай установы.

Абвесткамі ў абодвых паказаных выданьнях у апошніх нумарох за 1929 г. было прапанавана раённым і акруговым выканаўчым камітэтам, народным камісарыятам і цэнтральным установам БССР даць заяўкі на паказаныя выданьні для ўсіх установ раённага, акруговага і рэспубліканскага значэньня. Калі-ж якая-небудзь установа ня будзе атрымоўваць з 1930 г. паказаных выданьняў, яна павінна праверыць, ці ўнесена яна была ў адпаведную заяўку і калі не—прасіць аб унясеньні яе ў дадатковую заяўку і накіраваньні гэтае заяўкі ў Кіраўніцтва Спраў СНК і Эканамічнай Нарады БССР—Менск, Чырвонаармейская вуліца, № 3.

**Кіраўніцтва Спраў СНК і Эканамічнай Нарады БССР**